АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

4 - 10 ВЕРАСНЯ 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 4000 РУБЛЁЎ
№36 (176)

СМАРГОНЬ

## Кансерватары Боб і Эндру пакінулі Англію

“Праблемы дзейнасці мясцовых партыйных арганізацый” – такую назву атрымаў аднадзённы міжнародны семінар, які прайшоў на мінулым тыдні ў кафэ “Купалінка”. Арганізатарамі яго выступалі Аб’яднаная Грамадзянская партыя сумесна з Кансерватыўнай партыяй Вялікабрытаніі.

Падчас правядзення семінара кансерватары **Боб Мудзі і Эндру Варні** распавядалі пра сваю партыю і яе структуры, гаварылі аб планаванні партыйных арганізацый, іншым. Адбыліся дыскусіі з прадстаўнікамі АГП з Маладзечна, Астраўца, Смаргоні і Ашмянаў наконт будучых выбараў у мясцовыя Саветы.

Падчас перапынкаў кансерватары дзяліліся ўражаннямі пра Смаргонь, якія, у большасці, былі не з прыемных.

*Аддзел інфармацыі.*

ВІЛЕЙКА

## У старой лазні новыя цэны

На мінулым тыдні паднялася на 2000 рублёў цана на білет у “старую” лазню, што на вуліцы Садовай. Цяпер памыўка каштуе 10000. Тым не менш, жадаючых памыцца не паменшала. Вілейчане любяць сваю лазню.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

АСТРАВЕЦ

## “Альхоўка” раздавала дывідэнды

Нядаўна трымальнікі акцый ААТ “Кардонная фабрыка “Альхоўка” атрымалі дывідэнды за першае паўгоддзе. На кожную акцыю выйшла па шэсць з паловай тысяч рублёў.

Акцыянеры сваім выбарам могуць быць задаволеныя, бо ў стабільнай рабоце выбранага імі прадпрыемства сумнявацца не даводзіцца.

*Мар’ян ВЯНГРОЎСКІ.*

ВАЛОЖЫН

## Вішнеўская біяграфія

У трэці раз за апошнія гады сваю бацькаўшчыну – мястэчка Вішнева – наведаў былы прэм’ер-міністр Ізраіля **Шымон Перас**. Хаця госць падарожнічаў у якасці прыватнай асобы, яму была прадастаўленая ахова.

У час наведвання Перасам знакамітага ешыбота, старажытных яўрэйскіх могілак, чыгуначнай станцыі Багданава і самой вёскі Вішнева ізраільскія кінематаграфісты здымалі біяграфічны фільм пра выхадца з Беларусі.

*Ларыса КАРНЕЕВА.*

МІНСК

## Едзьма ў Гдыню!

14 верасня ў порце Гдыня (Польшча) на борце парома "Stena Europ" адбудзецца чарговая сустрэча прадстаўнікоў фірм Германіі, Польшчы, Швецыі, Літвы, Латвіі, Калінінградскай вобласці, Эстоніі і Украіны.

Як паведаміла БелаПАН у прэс-службе Міністэрства знешніх эканамічных сувязяў Беларусі, арганізатары сустрэчы запрашаюць да супрацоўніцтва прадстаўнікоў беларускіх фірм, якія зацікаўленыя ва ўстанаўленні дзелавых кантактаў і працуюць у будаўнічай, мэблевай, швейнай, харчовай, турыстычнай галінах.

*БелаПАН.*

СЯМ’Я

# Дзесятыя «сямейныя» роды ў Маладзечне

*Людміла і Яўген Антоненкавы сталі дзесятай сямейнай парай, якая наведала сямейную радзільную залу.*



*Ярамір дома сярод родных.*
ФОТА АЎТАРА.

МАЛАДЗЕЧНА. **Ярамір** з’явіўся на свет у год Тыгра, як і яговыя бацькі. Важыў 4 кілаграмы. Калі першы раз у аперацыйнай немаўля ўзялі на рукі, яно маўчала. А паклалі на стол – не маглі супакоіць.

У радзільным доме сямейная зала стала звычайнай з’явай. Людміла нараджала, а за руку яе трымаў муж.

– У жонкі сімптомы з’явіліся ў суботу, – расказвае Яўген, – выклікалі “хуткую”. Сам я пабег да дзяжурнага тэрапеўта ў паліклініку. Атрымаў даведку, што за 10 апошніх дзён у мяне не было інфекцыйных хвароб. Усе астатнія патрабаванні (флюараграма, аналізы) былі выкананыя раней. У радоме адправілі ў душ, выдалі стэрыльнае адзенне. Яшчэ з жонкай у палаце пасядзеў. Медыкі да маёй прысутнасці ставіліся станоўча. Роды прымала **Ірына Пыск**.

Перад уваходам у аперацыйную Яўген хваляваўся. Чуў, што ад выгляду крыві “валанцёры” губляюць прытомнасць.

– Калі ўбачыў, што з дзіцем усё ў парадку, – гаворыць Яўген, – дапамагаў жонцы – дубліраваў каманды медыкаў. Ўвесь час трымаў яе за руку. Поглядам падбадзёрваў. Людміла нават і не ўскрыкнула.

Пры выпісцы Людміла прызналася, што ёй было значна лягчэй, чым 14 год таму, калі нараджала дачку. Муж тады чакаў першынца дома.

“Сямейныя роды” – паслуга бясплатная. Аднак гэта магчыма, калі гаворка ідзе пра роды без паталогіі.

*Васіль САВІЦКІ.*

САНЭПІД ІНФАРМУЕ

## Дызентэрыя ідзе ў наступ

■ У апошні тыдзень жніўня ў Маладзечне склалася небяспечная эпідэміялагічнае становішча з захворваемасцю на дызентэрыю. Так, з 24 па 30 жніўня шпіталізавана ў інфекцыйную бальніцу 66 жыхароў горада. З іх 20 дарослых, 25 неарганізаваных дашкольнікаў, 6 дзяцей, якія наведваюць розныя д/с, 15 школьнікаў.

На мінулым тыдні падобная сітуацыя была ў Вілейскім раёне, адкуль **у інфекцыйнае аддзяленне Маладзечанскага тубдыспансера было шпіталізавана 23 дзіцяці з д/с №9 і дзіцячага цэнтра “Надзея XXI стагоддзя”.**

**Папярэдне ўстаноўлена, што гэтыя выпадкі ўзаемазвязаныя з прадукцыяй Вілейскага гармалзавода.** Так, у абодвух выпадках устаноўлены ідэнтычны від узбуджальніка.

*Заканчэнне на 3-й ст.*



1 ВЕРАСНЯ

## Скарочаныя ўрокі цэлы год

МАЛАДЗЕЧНА. Сёлета ў сярэдняй агульнаадукацыйнай школе мастацтваў акадэмічны час паменшыўся да 35 хвілін.

Яшчэ ў мінулым навучальным годзе ў школе сур’ёзна вывучалі стан здароўя вучняў і настаўнікаў. Адна з прычын, якая адмоўна ўплывае на вучобу, – стамляемасць. Гэтым часткова і абумоўлены пераход да прадметна–урочнай сістэмы. Урокі на часе сталі карацейшыя, і стаяць яны парамі. 10 хвілін, што вызваляюцца, ідуць на індывідуальную работу настаўніка як з горшымі, так і з лепшымі вучнямі. Прычым на індывідуальныя заняткі могуць быць адразу запрошаныя, напрыклад, і 5– і 6–класнікі. Так і дамашняе заданне выконваць прасцей – рыхтуеш не 6–7 прадметаў, а 2–3. Праграма застаецца тая ж, а нагрузка на вучняў змяншаецца.

*Сяргей АНДРЭЭЎ.*



*На фота: вучаніцы 1 “А” САШМ – эстэтычнага класа з паглыбленым вывучэннем англійскай мовы Каця Станкевіч і Ульяна Платановіч упершыню ля класнай дошкі.*
ФОТА АЎТАРА.

ПОЛЕ ЦУДАЎ

# Вілейчанка на «Полі цудаў»

***Супрацоўніца вілейскай раённай газеты “Шлях перамогі” Наталля Валынец трапіла на запіс перадачы “Поле цудаў”.***

***– Выйграць шыкоўную іншамарку ці фірменную бытавую тэхніку – гэтым тлумачылася паездка ў Маскву?***

– Інтарэс быў, хутчэй, спартыўны. Мая дачка Маша, сямікласніца гімназіі, складае крыжаванкі. Адну з іх даслалі на “Поле цудаў”. Праўда, пад маім прозвішчам. У канверт паклалі і фотакартку маю – у рабочым адзенні мыю вокны (іншай не знайшлі). Было гэта ў канцы чэрвеня. А ў сярэдзіне жніўня прыйшла тэлеграма–запрашэнне.

***– Крыжаванкі патрэбныя, каб спыніць вал лістоў – гэта зразумела. А навошта фотакарткі? Няўжо наступны этап адбору на перадачу –па тварах?***

– Вал лістоў крыжаванкамі не спыніць. Перадача атрымлівае да 30 тысяч пасланняў штомесяц. А фотакарткі патрэбныя, каб на здымках перадачы не стаялі побач тоўстыя і тонкі, кучаравы і лысы.

***– З чаго пачынаецца “Поле цудаў”?***

– З засялення ў гасцініцу тэлекампаніі, рэгістрацыі як неграмадзяніна Расіі. З субяседвання. Рэдактар праграмы з кожным сустракаецца. Пры індывідуальнай размове агаворваецца амаль кожны крок удзельніка – што канкрэтна сказаць, што падарыць. Я прывезла з сабою бутэльку гарэлкі “Белая Русь”. Падарыла яе **Якубовічу**. Перад гэтым загадалі зняць з бутэлькі этыкетку, каб не рабіць рэкламу гарэлачнаму заводу. Сказала грузінскі тост (дарэчы, у маёй калекцыі ля 7 тысяч тостаў).



*Падарунак ад Якубовіча ў руках Наталлі Валынец*
ФОТА З СЯМЕЙНАГА АЛЬБОМА Н.ВАЛЫНЕЦ

***– Колькі вас, паляўнічых за ўдачай, адразу прыехала?***

– 45. За 2 дні запісалі 5 перадач. Кожную абыгрывалі каля 3 гадзін. Тэма нашай – “Цуды свету”. Эфір 2 кастрычніка. Не крыўдуйце, што папярэджу падзею: выйграла гульню 52–гадовая жонка старшыні калгаса з Украіны. Яна адразу сказала: “Абавязкова патрэба выйграць. Бо ўся вёска будзе смяяцца, навошта тады галава (старшыня) жонку ў Маскву пасылаў”. Яна чалавек неардынарны. Праўда, замат мацюкаецца. Нават пры запісы выдавала такія тырады! Напрыканцы падарыла вядучаму засмажанага парсючка.

*Заканчэнне на 2-й ст.*

СТАРЫ АЛЬБОМ



Радашковічы, 20-я гады. Пад кустоўем бэзу ў сонечны летні дзень сфатаграфаваліся сем'і Браніслава Тарашкевіча і Аляксандра Уласава -- людзей, чые імёны сталі вызначальнымі ў гісторыі Заходняй Беларусі, як стала вызначальным для гісторыі мястэчка Радашковічы на граніцы былой Польшчы з былым Савецкім Саюзам. Аптымізм у вачах мужчын (Тарашкевіч у верхнім радзе, Уласаў у цэнтры) як заўсёды кампенсуецца смуткам і трывогай у жаночых вачах. Лёсы гэтых людзей, урэшце як і лёс Беларусі, шматпакутны.

ФОТА З АЛЬБОМА МІХАСЯ КАЗЛОЎСКАГА.

## Праз гады пані Адэля вярнулася паглядзець на свой маёнтак

***АСТРАВЕЦ. Непадалёк ад вёскі Дравянікі ёсць пачатковая школа, якая месціцца ў былым панскім маёнтку. Побач з ім знаходзіцца гара з пяску, якую, калі верыць мясцовым падамнням, шмат год таму сяляне насыпалі на загадзе пана. Што немалаважна, пясок насілі выключна ў шапках. Сёння на гэтай горцы можна знайсці разбураныя часам магілы, дзе былі пахаваныя родныя пана. На гэтым, здавалася б, гісторыя маёнтка адыходзіць у нябыт. Але...***

Пані **Адэля Алібека** ўпершыню за доўгія гады ў былую летнюю рэзідэнцыю трапіла ў 1996 годзе, калі была ў Вільні. І вось нядаўна яна зноў прыехала сюды. Праўда, распавядаць у падрабязнасцях пра сваю сям'ю адмовілася, паведала толькі, што яе бацька быў у Вільні школьным куратарам (інспектарам), а ў канцы 30–х яго саслалі ў Сібір. На шчасце, удалося ўцячы – выручыў на адной з чыгуначных станцый ксёндз Сапоцька, які затым дапамог перабрацца ў Польшчу. Сама ж пані Адэля ў ваенныя гады працавала ў Вільні ў сталовай, а пасля заканчэння вайны – у Познані ў кнігарні. Цяпер там і жыве.

– Пра сям'ю гаварыць не буду, бо для палякаў мы былі добрымі людзьмі, для рускіх – ледзь не бандыты, а для беларусаў цяжка сказаць, – гаворыць пані Адэля.

Маёнтак, што і казаць, цяпер запушчаны. Калісьці тут усё было дагледжана, бо гэтым займаліся браты **Санкоўскія** (дарэчы, жонка аднаго з іх цяпер працуе настаўніцай у школе) і сам дом, і капліца, і ставы. Акрамя гэтага, трымалі карову, іншую жывёлу. Нават летам мелі сваю лядоўню. Рабілі яе так: у склепе на тры метры выкопвалі яму, зімой туды кідалі лёд, які захоўваўся і летам. Натуральна, можна было смела трымаць там мяса.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

Аўтар выказвае падзяку сястры–манашцы **Валянціне Арсобе** ў падрыхтоўцы гэтага матэрыялу.

ПОЛЕ ЦУДАЎ

## ...на «Полі цудаў»

***– Зразумела, для музея "Поля цудаў". А ці існуе наогул гэты музей?***

– Малаверагодна. Мы прасілі, каб звадзілі нас туды. Адказалі, што раскіданы ён па розных месцах, патрэбны спецыяльны пропуск.

***– Ты атрымала нешта ў падарунак?***

– Перад гульнёй усе распісаліся за французскія хрустальныя вазы, печ–тостэр. Усё гэта атрымалі ў працэсе гульні.

***– Грымёры з вамі працавалі?***

– Мне паклалі на твар бескаляровую пудру. Прычоску не чапалі. Надзвычай, зрабілі камплімент, што добра выглядаю, тэлевізійна. Іншых рыхтавалі да эфіру доўга, асабліва цяжка працавалася з жаночымі галовамі.

***– Як там "наш кумір" Леанід Якубовіч?***

– Ён неадназначна падкрэсліваў: "Я толькі вядучы, за гадзіну даюць знаёміцца з гатовым сцэнарыем". Яшчэ: "Не думайце толькі пра выйгрыш. Наша мэта – зрабіць перадачу вясёлай". А перад самым пачаткам запісу ўстаўляў гледачам: "Я цяпер увайду, а вы пляскайце ў ладкі так, як быццам вы – савецкія людзі і ў падарунак кожны атрымаў ад урада навенькія "Жыгулі"".

***– Сама студыя ўражвае?***

– Не. Нейкая яна абшарпаная, нават столь падцякае. Усё гэта не відаць па тэлебачанні. Сама ж перадача "Поле цудаў" – сапраўдная дзяржава. Адразу і не падлічыш, колькі на яе працуе людзей. У мяне быў персанальны памагаты – тлумачыў, як карыстацца пышліпеным мікрафонам, адказваў за яго спраўнасць.

*Размаўляў Васіль САВІЦКІ.*

КУЛЬТУРА

## "Паглядзіце, паслухайце, раскажыце"

АШМЯНЫ. Дэпутат райсавета **Пётр Явідовіч** у вольны час любіць маляваць. Натуральна, як і любы мастак, хоча, каб яго творы змаглі пабачыць як мага больш людзей.

Свае апошнія карціны абстрактнага накірунку, сярод якіх ёсць і "Канфлікт з пасламі", "Паядынак" і два калажы, у якіх паказваюцца ўзаемаадносіны ўладаў і прэсы, ён хацеў выставіць у фае дома Саветаў альбо ў чытальнай зале раённай бібліятэкі. Звярнуўся па дазвол у выканком. Там для разгляду гэтага пытання была створаная камісія з ліку работнікаў культуры, якая палічыла арганізацыю выставы пад назвай "Паглядзіце, паслухайце, раскажыце" у памяшканнях дзяржустаноў культуры немэтазгоднай.

Цяпер многія знаёмыя і сябры Пятра Явідовіча наведваюцца да яго дамоў, каб пабачыць карціны.

*Алесь СВІРЧУКОЎ.*

## Клуб для жанчын і бібліятэка



*Бібліятэкар Наталля Шастак, загадчыца бібліятэкі Ала Краўцова, загадчыца бібліятэкі з 1959 па 1989 г. Алена Кулаковіч.*

ФОТА З АРХІВА БІБЛІЯТЭКІ.

***РАДАШКОВІЧЫ. Каб пазнаёміцца з гісторыяй мястэчка, лепш за ўсё завітаць у бібліятэку. Гэты астравок культуры на працягу доўгага часу збірае краязнаўчыя матэрыялы, утварае тэматычныя выстаўкі. Адна з іх – "Зямля пад белымі бусламі" праходзіць цяпер у чытальнай зале.***

Бібліятэкар **Наталля Шастак** гаворыць, што асноўная каштоўнасць установы – чытачы. Самыя актыўныя – работнікі "Белмастацкерамікі" **Фёдар Каткоўскі**, інжынер гэтага прадпрыемства **Валянцін Касцюкевіч**, стаматолаг **Святлана Фарыно**, дырэктар СШ №1 **Анатоль Зыль**, пенсіянер **Рыгор Кажэўнікаў**, іншыя. Прозвішчаў шмат.

Менавіта па іх просьбах праходзяць вечарыны, выстаўкі, прысвечаныя жыццю і творчасці знакамітых людзей, якія маюць дачыненне да мястэчка: "Да 100–годдзя Бранiслава Тарашкевіча", вечар паэзіі Я. Купалы, прэзентацыя кнігі старшыні міжнароднага фонду імя Я. Коласа Сымона Белага... 10 гадоў, як пры бібліятэцы створаны клуб для жанчын "Пралеска". Сёння рыхтуюцца яго чарговыя пасяджэнні "Кухня арыгінальных страў", "Загадкі старых карцін".

Бібліятэка супрацоўнічае са школай, домам творчасці, мясцовымі мастакамі. Работы апошніх – **Леаніда Грыцкова**, **Фёдара Свісцільніка** – часта з'яўляюцца на вернісажах бібліятэкі.

*Надзея ЛІСАВА.*

## «Паўлінка» ў Радашковічах

МІНСК–РАДАШКОВІЧЫ. Кожны свой асенне–зімовы сезон купалаўскі тэатр распачынае гэтай п'есай. Пачаўся ж сцэнічны лёс "Паўлінкі" ў 1913 годзе. Менавіта 28 жніўня "Паўлінка" ўпершыню трапіла ў межы сучаснай Беларусі.

Па ўспамінах **Веры Сніткі–Тарашкевіч–Ніжанкоўскай**, гэтым днём у Радашковічах дзядзька Веры Андрэеўны **Аляксандр Уласаў** і **яе бацька Андрэй Снітка** арганізавалі сельскагаспадарчую выстаўку.

«За лепшую скаціну, гародніну і збожжа выдавалі прэміі. Мастак Эраст Сукоўскі намаляваў некалькі прыгожых малюнкаў...

Вечарам у той жа дзень (28 жніўня 1913 г.) ставіўся спектакль "Паўлінка" мінскімі аматарамі, якія прыехалі ў Мігаўку (сядзіба А. Уласава). На той жа спектакль прыехалі запрошаныя сваякі Купалы – прапатэны Пустарэвіча і Крыніцкага. Дзядзька, баючыся, каб яны сябе не пазналі і не пакрыўдзіліся, добра іх падпаіў, яны ўсю пастаноўку праспалі, але былі задаволеныя павагай да сябе». (З рукапісу Веры Андрэеўны, прадастаўленага яе дачкой **Ірынай**).

На спектаклі прысутнічаў і сам аўтар. А іграла група, арганізаваная ў Мінску **Флярыянам Ждановічам**, які выканаў ролю Якіма. Вядома, што ў ролях былі: Паўлінка – **А. Ліпецкая**, Пустарэвіч – **Янка Беларус (Я. Ждановіч)**, Агата – **Т. Русецкая**, Быкоўскі – **П. Акуліч**.

А шлях "Паўлінкі" ў Радашковічы ляжаў праз Вільню і Пецярбург. 27 студзеня (па старым стылі) у зале гімнастычнага таварыства "Сокал" (Вільня) адбылася яе прэм'ера. Ставіў беларускі музычна–драматычны гурток. Ролю Паўлінкі выконвала **Зоя Маркевіч (Маркевічанка)**. На прэм'еры быў Янка Купала, які прыехаў з Пецярбурга. Яму быў уручаны залаты гадзіннік з надпісам: "Аўтару "Паўлінкі" віленскія беларусы. 27 студзеня 1913 г.". Купала падаў на сцэну Маркевічанцы букет кветак.

Другі раз "Паўлінка" была пастаўленая ў Пецярбургу 22 лютага 1913 г. беларускім навукова–літаратурным гуртком студэнтаў. Пастаноўшчык – артыст Александрынскага тэатра **К. Бэкін–Драздоў**. Купала актыўна ўдзельнічаў у падрыхтоўцы спектакля. У ролях: Паўлінка – **П. Мядзёлка**, Крыніцкі – **К. Душэўскі**, Пустарэвіч – **У. Эпімах–Шыпіла**, Быкоўскі – **Л. Адамовіч**, Якім – **Л. Заяц**, Альжбета – **В. Клікавіч**, Агата – **К. Эпімах–Шыпіла**. Аўтар атрымаў гадзіннік з надпісам: "Бацьку "Паўлінкі" ад беларускіх студэнтаў".

У верасні пастаноўка была адноўленая ў Вільні пры непасрэдным удзеле аўтара. У ролях былі занятыя П. Мядзёлка, А. Лявіцкі (Ядвігін Ш.), Г. Грыгоніс, ... Залескі і іншыя.

Ставіў "Паўлінку" ў Мігаўцы і сам А. Уласаў пры ўдзеле мясцовай моладзі. Гэта было пры польскай акупацыі. Жыла "Паўлінка" і пры нямецкай акупацыі. Па ўспамінах **Лявона Луцкевіча**, ён ставіў спектакль у 1942 годзе (магчыма, у 1943) у Радашковічах.

*Матэрыялы падрыхтаваў да друку Мікола ЛІННІК.*

1 ВЕРАСНЯ

## Дзяржава дапамагла

ВАЛОЖЫН. 48 сем'ям, якія маюць 5 і больш дзяцей ва ўзросце да 18 гадоў, дзяржава дапамагла падрыхтавацца да новага навучальнага года.

На кожнага школьніка аблвыканкам выдаткаваў 750 тысяч рублёў. Усяго сума аднаразовай дапамогі па раёне склала амаль 120 мільёнаў рублёў.

*Ларыса КАРНЕЕВА.*

## Знікаюць школы

ВАЛОЖЫН. З 43 школ раёна 9 – малакамплектныя. Іх лёс непрадказальны. З улікам дэмаграфічнага становішча прагноз на будучае сумны: у 2001 навучальным годзе колькасць вучняў на 200 чалавек зменшыцца.

Ужо сёлета закрылася Навасёлкаўская пачатковая. Каралінаўская базавая рэарганізаваная ў пачатковую. З цяжкасцю захавалі Проўжальскую пачатковую школу.

*Рэгіна СЯМЁНЧЫК.*

## Даўгабуд стаў еўрастандартам

ВІЛЕЙКА. На ўрачыстым адкрыцці СШ №5 прысутнічалі старшыня Мінскага аблвыканкома **Пётр Пётух**, дэпутат нацыянальнага сходу **Уладзімір Варашнін**.

Школа пачала будавацца 10 гадоў таму і з часам ператварылася ў даўгабуд. Сёння з палёгкай уздыхнулі і дзеці (перасяліліся ў новы будынак), і падрадчык – будаўнічае ўпраўленне №195 (пазбавіліся галаўнога болю), і жыхары пасёлка Касманаўтаў (стаў больш зручным маршрут аўтобуса №4).

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

## Вучацца на агентаў

ВІЛЕЙКА. ПТВ–124 сёлета пачало рыхтаваць спецыялістаў па новых спецыяльнасцях – страхавых агентаў і сацыяльных работнікаў.

Як адзначыў намеснік дырэктара **Мікалай Клемантовіч**, вучылішча імкнецца адпавядаць патрабаванням часу.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

## "Пажарныя" ў беларускім Артэку

ВІЛЕЙКА. Сямікласніцы гімназіі **Аляксандра Шайко**, **Марыя Валынец** у сярэдзіне верасня паедуць у "Зубраня".

Тут на месяц збіраюцца самыя актыўныя ўдзельнікі клубаў юных пажарных вобласці.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

## З паэтам на "ты"

ВІЛЕЙКА. Настаўнік гімназіі **Валер Рогач** на першым уроку, прысвечаным Адаму Міцкевічу, прапанаваў вучням уласныя пераклады твораў паэта.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ*

## Не вытрымалі...

***МІНСК. Ледзь не палова абітурыентаў-выдатнікаў не вытрымала сёлета прыёмных выпрабаванняў.***

Як паведаміў БелаПАН начальнік галоўнага ўпраўлення вышэйшай школы Міністэрства адукацыі Беларусі **Валерый Дабранскі**, студэнтамі–першакурснікамі дзённай формы навучання ў гэтым годзе сталі 20.500 чалавек пры 50.900 пададзеных заяў аб прыёме.

Па словах В. Дабранскага, выклікае трывогу той факт, што ледзь не палова выдатнікаў -- выпускнікоў школ, прафесійна-тэхнічных вучылішчаў і тэхнікумаў, -- якія паступалі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы рэспублікі, не вытрымалі прыёмных выпрабаванняў. У лічбавым выражэнні гэта 43,6 працэнта ад колькасці выдатнікаў, што паступалі. Пры сярэднім конкурсе ў дзяржаўных ВНУ 2,5 чалавека на месца (у 1997 годзе гэты паказчык складаў у сярэднім 2,2) у 14 вышэйшых навучальных установах рэспублікі ўзровень канкурэнцыі склаў больш за тры чалавекі (для параўнання: летась такіх ВНУ было толькі чатыры). У Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце (БДЭУ) і Беларускім дзяржуніверсітэце (БДУ) колькасць заяў толькі ад адных абітурыентаў-выдатнікаў перавысіла колькасць месцаў: так, у БДЭУ на 950 месцаў прэтэндавалі 1408 абітурыентаў-выдатнікаў, а ў БДУ на 1740 – 2428.

*Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ, БелаПАН.*

*САПРАЎДНАЯ АМЕРЫКА*

# Welcome to Iowa

*Працяг. Пачатак у №№ 8-34.*

## EdCo Credit Union – ідэя Расійскай імперыі

### або "Чорная каса" па–амерыканску

***Расійская імперыя, 1865 год. З'яўляюцца першыя пазыка–ашчадныя таварыствы. У 1914–м іх ужо 15 тысяч (аб'ядноўваюць 8 мільёнаў чалавек).***

Даведаліся мы пра такі факт толькі ў Аёве. Гэтыя добраахвотныя аб'яднанні грамадзян сталі правобразам Ашчаднага банка. Людзі рабілі ўклады, з якіх мелі дывідэнды. У канцы 20–х гадоў іх распусцілі, і грамадзяне мусілі несці грошы ў Ашчадны банк: 3/4 прыбытку, зробленага на іхніх грошах, ішло цяпер у дзяржбюджэт.

Досвед крэдытных саюзаў скарыстоўваюць самыя розныя краіны – ЗША, Канада, Аўстралія, Новая Зеландыя, Фіджы, Ірландыя... Узнікалі яны звычайна ў часы эканамічных крызісаў, калі пэўная дзяржава не магла забяспечыць сваім грамадзянам належны ўзровень жыцця. Прыкладам, у Злучаных Штатах падчас "вялікай дэпрэсіі" 30–х гадоў адбыўся імклівы рост іх колькасці.

Перавагі гэтага варыянта захоўвання грошай відавочныя; рызыка разарэння, да таго ж, зведзеная да мінімуму.

– Вы ведаеце адзін аднаго – гэта самы лепшы залог,– гаворыць кіраўнік кампаніі EdCo Credit Union **Дэніс Шарп**.– Тым не менш, калі новыя людзі нам падаюць заявы на ўступленне, мы іх старанна, усебакова правяраем.

Па дадзеных кампаніі, 63 мільёны амерыканцаў аб'ядналі такім чынам 250 мільярдаў долараў. У Аёве да дзвюх сотняў крэдытных саюзаў, члены якіх пад меншыя працэнты бяруць тут крэдыты на адукацыю, куплю машын, дамоў.

Спрабавалі і беларусы год–другі таму арганізаваць падобнае, ды аказалася, што дзяржава не зацікаўленая, калі грошы на рахунках прыносяць асноўныя дывідэнды не ёй, а канкрэтным людзям.

Кіраўнік кампаніі па–вайсковым падцягнуты мужчына гадоў 55. Самі амерыканцы зласлівяць, што адзін аклад ён мае тут, другі – у ЦРУ. Але пра гэта – наступным разам.

Даведкі пра крэдытныя саюзы Аёвы вы можаце атрымаць, калі звернецеся на электронны адрас: EdCoCU@aol.com.

*Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*

*БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ*

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 26.08 | 2.09 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 124,8 | **120,2** |
| Кілбаса сыравэндж. | 1 кг | 307 | **370** |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | 97 | **104,9** |
| Селядзец салёны | 1 кг | 52 | **52** |
| Рыс | 1 кг | 42 | **56** |
| Цукар | 1 кг | 31,5 | - |
| Грэчка | 1 кг | 37 | **48** |
| Алей | 1 л | 88 | **107** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 27,7 | **28** |
| Маянэз | 250 г | 25 | **25,4** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 90 | **90** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 35 | **34** |
| Соус там. "Мінскі" | 0,5 л | 40 | **44** |
| Лімоны | 1кг | - | - |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 35 | **35** |
| Масла | 1 кг | 100 | **100** |
| Тварог | 1 кг | 25 | **30** |
| Малако | 1 л | 9 | **9** |
| Бульба | 1 кг | 10 | **10** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 35 | **35** |

## 30 жніўня, Камароўка

### свініна

Косці (сабачая радасць) ........ 8000
Скурка ........ 20000
Ножкі ........ 30000
Галава ........ 40000
Лыч ........ 40000
Рагу ........ 45000
Хвасты ........ 45000
Галёнка ........ 45000
Вушы ........ 65000
Шыйны зарэз ........ 90000
Сала тонкае ........ 85000
Сала тоўстае ........ 100000
Рэбры ........ 110000
Мазгі ........ 100000
Грудзінка ........ 120000
Паджарка ........ 125000
Кумпяк ........ 135000
Лапатка ........ 140000
Шыя ........ 190000
Філе ........ 230000
Кілбаса дам. ........ 119000
Фарш дам. ........ 108000

*Ігар КІЦІКАЎ.*

*САНЭПІД ІНФАРМУЕ*

## Дызентэрыя ідзе ў наступ

*Пачатак на 1-й ст.*

■ Медыцынскімі работнікамі горада праведзены комплекс санітарна–супрацьэпідэмічных і медыцынскіх мерапрыемстваў, якія дазволілі стабілізаваць сітуацыю.

■ Пачынаючы з 29 жніўня рэгіструецца 5–6 выпадкаў захворваемасці ВКІ на дзень, што не перавышае дзённы кантрольны ўзровень па дадзеных шматгадовай дынамікі захворваемасці.

***Звяртаем увагу насельніцтва на неабходнасць захоўвання элементарных правілаў асабістай гігіены, мыцця рук, гародніны і садавіны. Не ўжывайце прадуктаў сумніўнай якасці. Гэта дазволіць абараніць вас і блізкіх ад інфекцый.***

■ Па–ранейшым у радыелагічную лабараторыю цэнтра працягваюць паступаць пробы грыбоў з павышаным утрыманнем радыенуклідаў. Так, з 54 даследаваных проб у 10 адзначана перавышэнне РДУ–96: вараных грыбоў, сабраных у раёне в.в. Пруды, Чарчонава, Грыцава, Сасновы Бор Маладзечанскага раёна; махавікі в. Мамаі, п. Ільля Вілейскага р–на.

■ Адзначаны шэраг грубых парушэнняў захавання санітарных нормаў і правілаў пры гандлі прадуктамі на калгасным рынку, дзе шэрагам прыватных асоб, у т. л. і небеларускай нацыянальнасці, рэалізуецца садавіна і гародніна без дакументаў, якія сведчаць аб якасці, медыцынскіх даведак аб стане здароўя. **За адсутнасць патрэбнага кантролю аштрафаваны нам. дырэктара рынку, а таксама шэраг прадпрымальнікаў: О. І. Бут–Гусаім, Е. А. Цімафеева, І. М. Судзіна.**

*Міхаіл ГРАБОЎСКІ, в. а. галоўнага дзяржаўнага санітарнага ўрача Маладзечанскага раёна.*

*ЗЕМЛЯКІ*

## Зінаіда Руткоўская мае сакрэты з паслом

***СМАРГОНЬ. Пасол нашай краіны ў Вялікабрытаніі Уладзімір Шчасны калісьці вучыўся ў мясцовай СШ №2.***

Настаўніца беларускай мовы **Зінаіда Руткоўская** яго памятае добра, бо Уладзімір быў у класе прыкладам для іншых – добра вучыўся і паводзіў сябе, заўсёды размаўляў па-беларуску.

Некалькі год таму Уладзімір сустракаўся з вучнямі і настаўнікамі сваёй школы, але Зінаіда Руткоўская ўбачыць свайго любімца не змагла. А вельмі хацела, бо мае да яго адзін сакрэт. Ведае пра гэта і пасол, а таму падчас тэлефоннай размовы паабяцаў (калі будзе ў Беларусі) абавязкова пасакрэтнічаць са сваёй настаўніцай.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

*У ВЫРАЙ*

## Беларуская птушка эміґравала

***ВІЛЕЙКА. У нядзелю 30 жніўня нашы буслы адляцелі ў Афрыку.***

А 6 гадзіне каля Ільі можна было назіраць каля сотні буслоў, трохі менш іх сабралася каля Стаек і Лукаўца. Калі сонца асвяціла зямлю, усе тры чарады падняліся ў неба, зрабілі развітальны круг і рушылі на поўдзень.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

## Быць закону аб ...ежы

***МІНСК. Рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр па экспертнай ацэнцы якасці і бяспекі прадуктаў харчавання пры Міністэрстве аховы здароўя Беларусі ініцыіраваў распрацоўку Закона аб ежы.***

На думку спецыялістаў, неабходнасць распрацоўкі такога дакумента выклікана даволі нізкім узроўнем культуры харчавання ў Беларусі і недастатковай якасцю ўжываемых прадуктаў. У аснову новага закона павінна быць пастаўлена ахова здароўя грамадзян. Пры гэтым у міністэрстве адзначаюць, што праблема здаровага харчавання сёння характэрная для многіх еўрапейскіх краін. Па дадзеных статыстыкі, каля паловы выпадкаў смяротнасці сярод мужчын і жанчын ва ўзросце да 65 гадоў выклікана захворваннямі, абумоўленымі няправільным харчаваннем. Праведзеныя даследаванні сведчаць аб беднасці рацыёну сярэдняга беларуса, які ўжывае занадта шмат халестэрыну, вугляводаў і занадта мала -- садавіны і агародніны.

*Наталля КУЛАГІНА, БелаПАН.*

*БЛІЗКАЯ ГІСТОРЫЯ*

## Паўсядзённае жыццё ў Беларусі: 1945–1965

***Архіў Найноўшай Гісторыі (пры Беларускім Гуманітарным Фондзе "Наша Ніва") пры ўдзеле Таварыства Беларускай Мовы імя Ф. Скарыны абвяшчае конкурс "Паўсядзённае жыццё ў Беларусі: 1945–1965".***

Мы хочам зацікавіць школьнікаў гісторыяй паўсядзённасці блізкага да нас часу – мінулым сваёй сям'і, атачэння, населенага пункта... Мы хочам заахвоціць да самастойнай даследчай працы, якая патрабуе выкарыстання метадаў дзейнасці гісторыкаў і прыёмаў журналістыкі.

У конкурсе могуць узяць удзел навучэнцы сярэдніх навучальных устаноў: школ (пачынаючы з сёмага класа), ліцэяў, гімназій, каледжаў, ПТВ, тэхнікумаў.

Форма конкурснай працы адвольная. Гэта можа быць сачыненне альбо эсэ, калаж з фотаздымкаў ці нават фільм, інтэрв'ю і г. д. Праца павінна мець творчы характар. У выпадку нятэкставых формаў да працы павінна быць далучаная пісьмовая частка, якая адлюстроўвае працэс даследавання і збору інфармацыі.

Конкурсная праца падаецца на беларускай мове. Тэксты крыніцаў могуць падавацца ў арыгінале.

Праца можа быць падрыхтаваная як індывідуальна, так і групай, самастойна альбо з дапамогай настаўніка, бацькоў, бібліятэкара і г. д. Да працы павінна быць абавязкова далучаная метрычка.

Працу трэба даслаць у адным асобніку да 15 лістапада (дата вызначаецца па паштовым штэмпелі) на адрас: 220123, Мінск, а/с 71.

Вынікі конкурсу будуць абвешчаныя 15 снежня 1998 года. Пераможцаў конкурсу чакаюць прызы.

***Інфармацыю і парады можна атрымаць у сакратара конкурсу Ірыны Коваль па тэл. (0172) 774625 з 7–00 да 8–00 і з 22–00 да 23–00 па панядзелках і чацвяргах. Умовы конкурсу ўжо друкаваліся ў газеце "Наша Ніва" (№10 за 1 чэрвеня 1998).***

*ПАРАДЫ*

## Аўтобусны марафон

**Пётр Цаплыгін, музыкант, Маладзечна**

– Аўтобусны прыпынак з вуліцы Б. Хмяльніцкага (што быў ля магазіна "Елгава") перанеслі на Вялікі Гасцінец. Спыняюцца там маршрутныя аўтобусы №6, №7. А іншыя – №№ 5, 4, 10, 3, 9, 11, 12 – не. А для пасажыраў гэта было б зручна. Тым больш, што сярод тых, хто карыстаецца грамадскім транспартам, шмат людзей у гадах.

Параіў бы змяніць накірунак руху аўтобуса №4 па вуліцах Міру, Будаўнікоў, Скарыны. Таксама будзе аб'язджаць круг, толькі з іншага боку. Зручна. А так мы вымушаныя, каб паехаць у адным накірунку, стаяць паміж прыпынкамі на той жа вуліцы Міру. Ці №6 першы прыйдзе, ці №4.

*КРЫМІНАЛ*

## Служылі два таварышы

***АСТРАВЕЦ. І служылі не дзе–небудзь, а ў ВМС Расіі. Вяртаючыся са службовай камандзіроўкі ў Калінінград, палічылі за лепшае "застацца" на заданні.***

Перасеклі беларуска–літоўскую мяжу, выкралі тавараў амаль на 8 мільёнаў рублёў у адным з вясковых магазінаў на Ашмяншчыне і з такімі ж намерамі праніклі ў краму ў Рымдзюнах. "За руку", што называецца, тут іх злавілі астравецкія аператыўнікі.

А служыць хлопцам заставалася ўсяго адзін год.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

